


# *Да 75-годдзя народнага артыста Беларусі і СССР Уладзіміра МУЛЯВІНА*

Нарадзіўся ён у Свярдлоўску (цяпер Екацярынбург) 12 студзеня 1941 года ў сям'і рабочага «Уралмашзавода». Пасля заканчэння школы-васьмігодкі атрымліваў адукацыю ў Свярдлоўскім музычным вучылішчы.

У 1963 годзе Уладзімір атрымаў запрашэнне ад Беларускай філармоніі і прыехаў разам з сям'ёй у Мінск, дзе пачаў працаваць у канцэртна-эстрадным бюро Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Потым была армія, армейскі вакальны квартэт і ансамбль Беларускай ваеннай акругі.

Мулявіна заўсёды цікавіла народная музыка. У 1968 годзе музыкант зрабіў першыя спробы стварэння ансамбля. Спачатку гэта былі «Лявоны», а ў 1969 годзе калектыў быў перайменаваны ў вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры».

Упершыню ў новай якасці ансамбль набыў шырокую вядомасць у 1970 годзе ў Маскве, дзе ён атрымаў другую прэмію (першая не прысуджалася) на IV Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады.

Дзякуючы выдатнаму музычнаму таленту Мулявіна набылі другое жыццё такія беларускія народныя песні, як «Касіў Ясь канюшыну», «Па ваду ішла», «Рэчанька», «Купалінка», «Ой, рана на Йвана», «А ў полі вярба», «Каліна» і многія іншыя, якія гучалі ў выкананні легендарнага ансамбля «Песняры». У рэпертуары калектыву было нямала лірычных песень на вершы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Петруся Броўкі і іншых беларускіх паэтаў.

У маі 2002 года Уладзімір Мулявін трапіў у аўтамабільную аварыю і атрымаў вельмі складаную траўму пазваночніка, а 26 студзеня 2003 года на 63-м годзе жыцця вядомы музыкант памёр. Пахаваны ён у Мінску на Усходніх могілках.

Заслугі Уладзіміра Мулявіна высока ацэнены ў Беларусі і за яе межамі. Ён удастоены ганаровых званняў Беларусі, СССР і Польшчы, узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, стаў лаўрэатам прэмій УЛКСМ і ЛКСМБ, пераможцам многіх міжнародных і ўсесаюзных музычных конкурсаў. У Маскве на Алеі зорак у 2001 годзе была закладзена зорка нашага знакамітага суайчынніка. У Мінску ўстаноўлена мемарыяльная дошка на доме па вуліцы Бяды, 13, у якім жыў Мулявін; яго імем названы бульвар, створаны Нацыянальны цэнтр музычных мастацтваў імя Мулявіна.

Імя Уладзіміра Мулявіна і Беларускага дзяржаўнага ансамбля «Песняры» ўвекавечана 9 ліпеня 2010 года ў Віцебску на алеі лаўрэатаў. Таксама ён удастоены спецыяльнай узнагароды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення». У 2014 годзе па ініцыятыве аддзялення пасольства Беларусі ў Екацярынбургу быў устаноўлены помнік легендарнаму заснавальніку ансамбля «Песняры».

Кніга пра Уладзіміра Мулявіна «Сэрцам і думамі» выдавецтва «Мастацкая літаратура» (на здымку ўверсе) стала пераможцам Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі», вынікі якога былі падведзены на XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашу.




Помнік У. Мулявіну на Усходніх могілках у Мінску

*Чытаць поўнасцю: http://blr.belta.by/dossier/view/dase-da-75-goddzja-narodnaga-artysta-belarusi-i-sssr-uladzimira-muljavina-42170/*

# АСТРАМЕЧАЎСКІ РУКАПІС

БРЭСЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ

НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ ВЫДАННЕ

Выходзіць штоквартальна
Мова: беларуская, руская

**№ 1 [13]•2016**

БРЭСЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДДЗЕЛ ІДЭАЛАГІЧНАЙ РАБОТЫ, КУЛЬТУРЫ І ПА СПРАВАХ МОЛАДЗІ РАЙВЫКАНКАМА

БРЭСЦКАЕ АДДЗЯЛЕННЕ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ (ГРАМАДСКІ ФУНДАТАР)

РАЁННЫ ДОМ РАМЁСТВАЎ



**Кантакты:**

(+375 29) 20-161-02
(+375 162) 965-957
e-mail: kotlas@tut.by

Падпісана да друку 01.03.2016.
Фармат 70х100 1/16. Гарнітура PF Agora Serif Pro.
Тыраж 99 экз. Ум. друк. арк. 8,10.
Друк цыфравы. Надрукавана ТДА «Артлайнсіці»,
г. Брэст, вул. Карбышава, 74.
Арыгінал-макет падрыхтаваны
ТАА «Паліграфіка», зак. 18-2016.
Пасв. 2/2 ад 16.08.2013, пасв. 1/22 ад 16.08.2013,
вул. Стафеева, 21, 224007, г. Брэст
тэл. (+375 162) 49-26-79, www.poligrafika.by

**1-я с. вокладкі**: Юрий Шалов. Масленица

**1-я і 4-я с. вокладкі**: Святочны рушнік Тамары Негерыш

У афармленні выкарыстаны выцінанкі мастачкі Святланы Вяль

У НУМАРЫ:

# Да 500-годдзя Астрамечава

## Первое летописное упоминание Остромечево



КНИГА ВТОРАЯ СУДНЫХЪ ДѢЛЪ (1506—1523).

**212.**—1516. |(л. 170) Вырокъ земениꙋ Берестеїскомꙋ Мнꙋ Андреєвичꙋ съ паномъ Юрьємъ Ильиничомъ ѡ именьє, дядьковъщину єго, Ѡстромечино, на которое дядько єго Юре' Ѡстромечовичъ ꙋ пана Ильинича 110 копъ позычивши, въ тыхъ пѣнезехъ єму по своємъ животе ѿписалъ.

Смотрели єсмо того дела съ паны радами нашими. Стоѧли передъ нами ѡчевисто, жаловалъ намъ земенинъ Берестеїски' Мнъ Андреєвичъ тымъ ѡбычаємъ: ижъ де' дядько мо' Юре' Ѡстромечовичь, дете' въ себе не маючы, позычилъ въ марьшалька нашого, старосты Берестеїского и Лидьского*, въ пана Юрьѧ Ивановича Ильинича сто копъ и десять копъ гроше' Польскихъ полугрошковое личьбы; а въ томъ, по своємъ животе, записалъ єму именьє своє ꙋ Ѡстромечино, близкость мою. И ѧ, будꙋчи къ тому близки', за живота дядька своєго, тую выше' меневую сꙋму пѣнѧзе' єму ѿдаю; и ѡнъ не хочеть въ мене брати.

И панъ Юре' покладалъ передъ нами листъ на паркгамене того-то Юрьѧ. И въ томъ-то листе выписано стоить: нижъ ѡнъ посполь зъ жоною своєю, пана Юрьѧ жадалъ ѡ тую сто копъ и десять копъ гроше', чимъ былъ жонꙋ свою на томъ именью веновалъ, и къ тому єго жадалъ, ажъ бы ѿ кривдъ єго боронилъ и службу земъ[с]кую за него заступовалъ, а по своємъ животе, въ то' сꙋме пѣнѧзе' тоє именьє єму записалъ; и єстли бы такъ тотъ братаничъ єго Мнъ хотелъ тоє именьє Ѡстромечино выкупити и мелъ бы то заставити, або продати кому иншому, тогды не мелъ ни кому иньшому заставити, ани продати, |(об. л. 170) только пану Юрью, для того, ижъ ѡнъ къ тому близши', нижли хто. Какъ же и самъ тотъ Юре' Ѡстромечевичъ то передъ нами зналъ ꙋстне.

И при томъ панъ Юре' рекъ: ижъ тотъ Мнъ и своєє части именьѧ иньшимъ много продалъ и позаставлялъ, а и то хочеть чужими жъ пѣнѧзьми ѡкупити; а въ томъ тоє именьє хотѧчи заставити, ѡтдалѧючы[1] ѿ мене, ѿ близкого, а ѧ де' за того Юрьѧ службу земъскую заступовалъ, и хочу застꙋповати ажъ до єго живота.

Ино намъ и паномъ радамъ нашимъ виделосѧ такъ: коли тотъ Юре' тыи пѣнѧзи въ пана Юрьѧ Ильинича позычилъ, а тоє именьє своє єму въ то' выше' менено' суме по своємъ животе записалъ, а ѡнъ къ тому тежъ близъки'* и службу земъскую за него застꙋповалъ и хочеть заступовати, тогды маєть по єго животе панъ Юре' тоє именьє въ тыхъ пѣнезехъ въ своє' рꙋце мети. А похочеть ли тотъ Мнъ тоє именьє въ него ѡкупити, и ѡнъ маєть своими властными пѣнѧзми ѡкупити; а до тыхъ часовъ, поки тотъ Мнъ своими властными пѣнѧзми єму тую сꙋму пѣнѧзе' ѿдасть, маєть маръшалокъ нашъ панъ Юре' тоє именьє въ тыхъ своихъ пѣнезехъ держати, подлꙋгъ записꙋ того-то ꙋ верьхꙋ писаного Юрьѧ и блиъкости* своєє[3].

**213.**—1516. |(л. 171) Справа Хресꙋлꙋ альбо ѿ него пану Богꙋшу Боговитиновичꙋ съ паномъ Мномъ Мновичомъ Заберезинскимъ ѡ забиранье кгрꙋнтовъ и ѡ розные шкоды межи именьями Словитичи и Ѡблочномъ въ Берестеїскомъ повете.

Жаловалъ господарꙋ королю єго милости ѿ Хресꙋла маршалокъ и писарь єго милости панъ Богушъ Боговитиновичъ

[1] Здѣсь ы передѣлано изъ м. [2] Кустодія нѣтъ. [3] Здѣсь ъ передѣлано изъ ь.

Из книги Судных дел

## Гербы владельцев Остромечево в XV–XX веках



**«Корчак»**
(род Ильиничей)



**«Рох II»**
(род Костюшек и Сузинов)



**«Пузына»**
(род Пузынов)



**«Огинец» («Брама»)**
(род Огинских и Пузынов)

## Старинные карты Остромечево




Фрагмент карты Стрельбицкого 1865 г.



Фрагмент карты XVI века




Фрагмент карты 1935 г.

# Астрамечава: учора і сёння

Астрамечава — старадаўняя сядзіба. У пісьмовых крыніцах упамінаецца з XV стагоддзя як радавое гняздо Астрамечаўскіх, а пазней Іллінічаў. Вядома, што ў 1-й палове XIX ст. у Астрамечава існавалі два маёнткі. Уладальнікам іх быў Юліян Сузін з небагатага шляхецкага роду. У 1840 годзе яго дачка Разалія выйшла замуж за вайсковага палкоўніка Юзафа Пузыну (1800–1874), і з той пары Астрамечаўская сядзіба па спадчыне перайшла да роду Пузынаў. Пасля Юзафа ўладальнікам Астрамечава стаў яго старэйшы сын Аляксандр.

Існуе дзве легенды аб паходжанні назвы вёскі. Першая паведамляе, што прыкладна ў 1516 годзе на гэтай тэрыторыі прайшла вялікая бітва паміж рускімі і шведамі. Перамаглі руския, у якіх былі вострыя мячы, выкаваныя мясцовымі кавалямі. Дзякуючы вострым мячам і была атрымана перамога. Пасля гэтай бойні людзей, якія тут жылі, пачалі зваць «астрамечаўцы», а само паселішча — Астрамечава.

По другому паданню, тутэйшая мясцовасць была глухая, нешматлюдная. Толькі каля рэчкі ўзвышаўся велічны касцёл, які наведваў польскі кароль. Насупраць знаходзіліся тры курганы. Людзі гаварылі, што ў іх схаваны каштоўнасці, але колькі іх не шукалі, так нічога істотнага не знайшлі. Назва вёскі пайшла ад прозвішча Астрамеч, якое меў каралеўскі кухар, што вельмі смачна гатаваў ежу. Кароль яго вельмі шанаваў. З часам кухар састарэў і кароль адпусціў свайго служачага на адпачынак, а замест яго пакінуў кухарыць яго сына. Застаўся Астрамеч з дачкой. Аднойчы яму не спалася, і ён вырашыў прагуляцца па начным парку. Зайшоў Астрамеч у самы далёкі куток, толькі сеў на пень, як пачуў цікавую размову. Размаўлялі чатыры чалавекі. Ён толькі пачуў, што калі яны стануць уладальнікамі гэтых каштоўнасцей, то будуць вельмі багатыя. Праз тыдзень яны дамовіліся ісці да курганоў, схавалі паперу (гэта быў план) у дупле і зніклі. Астрамеч украў гэтую паперу і ўцёк. Назаўтра ён прыйшоў да караля і пачаў прасіць, каб яго пасялілі ў мясцовасці, што была на плане. Кароль згадзіўся, і пасяліўся Астрамеч са сваёй дачкой на гэтым месцы ў закінутай старой хаце. Днём дачка заставалася дома, а Астрамеч


Аграгарадок Астрамечава — сучасны выгляд

кудысьці знікаў. Хутка ён стаў прыносіць многа золата. Адбудаваўся, жывёлы стала шмат. Адным словам, разбагацеў, цяжка стала спраўляцца з гаспадаркай, таму наняў чатырох парабкаў (гэта былі тыя бандыты, што размаўлялі ў парку). Аднойчы ноччу парабкі ўварваліся ў хату і сталі пытаць старога, дзе скарб. Але Астрамеч нічога не сказаў. Тады бандыты забілі яго, а дачку згвалтавалі і павесілі. Спалілі і знішчылі ўсё, толькі чуткі аб гэтай гісторыі і засталіся. Ад імя былога каралеўскага кухара і пайшла назва Астрамечава.

У 1570-х гадах маёнтак Астрамеч належыў двум зямянам Харытам.

Нешматлікія ўрочышчы паблізу сярэдневяковага Астрамечава былі пакрытыя мноствам камянёў рознай велічыні. Гэта акалічнасць адыграла сваю станоўчую ролю. Мясцовыя жыхары будавалі сабе каменныя хаты, адрыны і нават склепы. Некаторыя пабудовы, у прыватнасці, XIX стагоддзя, захаваліся па гэты дзень. У 1846 годзе мясцовыя дойліды з мясцовага ж бутавага каменя ўзвялі Свята-Міхайлаўскую царкву на месцы старога драўлянага храма. Праца была няпростай, таму што без сучасных «балгарак» трэба было падагнаць, роўна прасвідраваць і дакладна раскалоць камень.

Цікавая акалічнасць звязана з драўляным Міхайлаўскім храмам, дзе ў XVII стагоддзі нейкі манах пераплёў у вокладку ўніяцкага трэбніка помнік беларускай музычнай культуры, цяпер вядомы як «Астрамечаўскі рукапіс».

Глеба на пагорыстай Прыбужскай раўніне была не шмат урадлівай. Апісанне гэтай тэрыторыі амаль заўсёды пачыналася так: «Нетры багатыя будаўнічым матэрыялам: жвірам, пяском, глінай. Глеба дзярнова-падзолістая і часткова тарфяна-балотная». І тым не менш, сяляне Астрамечава не толькі здабывалі торф, але рупліва і з веданнем справы займаліся сельскай гаспадаркай.

Непадалёку ад вёскі, на полі, размясцілася самая высокая геаграфічная кропка Брэсцкага раёна; яе вышыня, па пасведчанням вучоных, — 186 метраў над узроўнем мора. У пачатку 2000-х гадоў аматары ўстанавілі тут знак з даведачнай інфармацыяй.

У Першую сусветную вайну, калі нямецкі фронт блізка падышоў да Астрамечава, ваяры з казачага атрада царскай арміі прымусова загадалі насельніцтву рыхтавацца да выезду з родных мясцін. Ланцуг павозак быў накіраваны ў бок Брэста, а казакі падпалілі вёску, каб ніводная хата не дасталася кайзераўцам. Людзі перасяліліся ў розныя губерніі Расіі, Украіны, Каўказа. Толькі пасля 1920 года, калі тэрыторыя адышла па дагавору да Польшчы, астрамечаўцы пачалі вяртацца ў родныя мясціны, дзе іх сустрэлі руіны і папялішчы. Аднак прыхільнасць да роднай зямлі дапамагла людзям адбудаваць новую вёску Астрамечава. Да гэтага часу старэйшыя жыхары памятаюць млын, што дзейнічаў з канца 30-х гадоў XX стагоддзя на ўскрайку сяла. Некалькі пабудоў тых часоў захаваліся і выкарыстоўваюцца і сёння, напрыклад, склеп Ульяна Паднюка, што быў пабудаваны ў 1921 годзе, хлеў Міхаіла Уюна 1935 года пабудовы.

У 1940 годзе ў вёсцы Астрамечава жылі 776 чалавек, налічвалася 155 двароў. Гэта быў нават не пасёлак, а раскіданыя хутары. Такія былі вынікі зямельнай рэформы, якую праводзіў польскі ўрад у сярэдзіне трыццатых гадоў XX стагоддзя. Астрамечаўцаў рассялілі па бліжэйшым урочышчам, якіх, паводле некаторых дадзеных, было не менш за паўтара дзясятка. І гэта адна з прычын, па якой у 1939–1940 гадах тут не паспелі

стварыць калектыўную сялянскую гаспадарку па савецкай мадэлі.

22 чэрвеня 1941 года Германія, парушыўшы мірны дагавор, усю сваю моц абрушыла на мяжу СССР. У пачатку шостай гадзіны, уранку, па расказах мясцовых жыхароў, па палях збажыны ланцугом ішлі фашысты, усё змятаючы на сваім шляху. Калоны чужынцаў рухаліся праз вёску чатыры дні, а потым акупацыйны рэжым рабаваў і катаваў мясцовае насельніцтва. На прымусовыя работы ў замежжа з Астрамечава было вывезена 10 чалавек.

Шмат землякоў удзельнічалі ў баях на франтах Вялікай Айчыннай вайны, 17 загінулі, прапалі без вестак на тэрыторыі Польшчы, Германіі.

У вызваленні Лышчыцкага сельскага савета, вёскі Астрамечава ўдзельнічалі чырвонаармейцы 28-й арміі 1-га Беларускага фронту. Гэта было ў ліпені 1944 года. Першым праз вёску прайшоў партызанскі атрад пад кіраўніцтвам камандзіра Р. Кірычэнкі, у гонар якога была названа адна з вуліц вёскі.

Жыхары Астрамечава, нягледзячы на вялікую шкоду, што прынеслі роднай зямлі акупанты, адбудоўвалі новае жыццё. 8 лютага 1949 года ў Астрамечава быў арганізаваны калгас «Памяць Ільіча». Ён аб'яднаў 75 сялянскіх гаспадарак, 109 чалавек, 58 коней і 780 гектараў зямлі. Першым старшынёй быў абраны Андрэй Данілюк. Тады гаспадарка называлася сельгасарцель. Ужо ў сакавіку ў калгасе былі ўкамплектаваны тры паляводчыя і будаўнічая брыгады, агародніцкае звяно.

У пяцідзясятыя гады ўзрасла дапамога сельскай гаспадарцы з боку дзяржавы. Стала паступаць тэхніка — трактары, камбайны, іншыя матэрыяльна-тэхнічныя сродкі. Першае аб'яднанне калгасаў у Астрамечаўскім сельскім Савеце адбылося 30 сакавіка 1950 года, а завяршылася ўзбуйненне летам 1986 года. Тады гэта быў ужо калгас-камбінат — правобраз таго, што можна бачыць у Астрамечава сёння: горадаўтваральнае комплекснае прадпрыемства з максімальна закрытым вытворчым цыклам і развітай інфраструктурай.

Змяніўся воблік калгаса. Пабудаваны новы пасёлак. Цяпер тут ва ўтульных кватэрах жывуць 150 сем'яў. Пабудаваны дзіцячы садок, Палац культуры, гандлёвы цэнтр.

У 1992 годзе калгас быў ператвораны ў сельскагаспадарчае калектыўнае прадпрыемства «Астрамечава». У ліпені 2003 года перайменаваны ў сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў. У 2005 годзе вёска Астрамечава атрымала статус аграгарадка.

Паспяхова працуюць аб'екты сацыяльнай інфраструктуры: амбулаторыя, аптэка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, дзіцячая школа мастацтваў, банк, паштовае аддзяленне, лазнева-пральны комплекс, чатыры крамы, гасцініца, два прадпрыемствы грамадскага харчавання.

Сёння ў СВК больш за семдзясят прафесій і спецыяльнасцяў. Ёсць свой галоўны архітэктар, які імкнецца зрабіць так, каб вытворчыя і жылыя памяшканні арганічна ўпісваліся ў навакольны ландшафт.

Аграгарадок «Астрамечава» сёння — гэта вуліцы і добраўпарадкаваныя кварталы ўтульнага сучаснага жылля, мадэрнізаваныя прамысловыя прадпрыемствы і сельская гаспадарка, насычанае культурнае жыццё, кваліфікаванае медыцынскае і бытавое абслугоўванне.

*З біябібліяграфічнага агляду «Па хвалях часу» Брэсцкай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы і Астрамечаўскай сельскай бібліятэкі імя Ф.Ф. Паўленкава, 2015 г.*

# Культурные бренды Остромечево



Дожинки — традиционный праздник урожая



Памятный камень Казимиру Лыщинскому с его напутствием потомкам




Мемориальная доска в честь Героя социалистического труда Лидии Дмитриевны Брызги



Музей Казимира Лыщинского в Лыщицкой СШ



Ансамбль цимбалистов Остромечевской детской школы искусств



Народный ансамбль музыки и песни «Астрамечаўскія Лявоны»




Торжественное открытие памятной доски в честь 110-летия Остромечевской сельской библиотеки им. Флорентия Павленкова







«Астрамечаўскі рукапіс», архивный документ XVII века, известный также как «Рукапіс 127/56» Ягеллонской библиотеки г. Кракова

Свято-Михайловская церковь 1840 года постройки

«Апостол» — старейшее рукописное издание XVI–XVII веков




Книга минского писателя Владимира Липского «Мужик» о знаменитом председателе СПК «Остромечево» Алексее Степановиче Скакуне



Образцовый ансамбль народного танца «Местачковыя казыры» Остромечевского СДК




Памятник односельчанам и воинам, героям Великой Отечественной войны



# Первый послевоенный выпуск

Как давно это было. Вспоминая своих родителей, родных и близких, мысленно возвращаюсь к тем, уже далеким школьным годам в родной Остромечевской средней школе, которая и сегодня продолжает нести факел знаний, зажженный еще в 1866 году. Но сегодня я хочу посвятить свои слова ученикам Остромечевской СШ — выпускникам послевоенного 1949 года.

Сразу же после освобождения нашего Остромечево 28 июля 1944 года встал вопрос о восстановлении учебного процесса в школе. По тем временам у нас было два деревянных здания. Первое, построенное в конце XIX века, — народное училище, ставшее позднее церковно-приходской школой, после 1911 года — земское народное училище. Второе, построенное в 1906–1907 гг. на собранные народные деньги, деревянное, чуть приземистее, на четыре классные комнаты. Итого в распоряжении учеников и учителей перед 1 сентября оказалось семь классных комнат. Младшие классы учились в бывшем двухэтажном доме помещиков Пузынов.

В годы войны (1941–1944) здания были заняты немецкими оккупантами, полицейскими и власовцами. Они превратили школьные здания в безобразный вид. Для того чтобы школа 1 сентября

7 ноября 1944 года. Первый учебный год





Май 1945 года. Остромечевская средняя школа

1-й выпуск Остромечевской школы 1949 года. На фото: верхний ряд (слева направо) — Петручик Владимир Степанович, Семенюк Михаил Акимович, Дудик Ирина Константиновна, Рудич Вячеслав Ефимович, Петручик Валентин Фёдорович, Кузавко Алексей Никитич, Паднюк Алексей Серафимович. Сидят (слева направо) — заслуженный учитель БССР Брашко Николай Демидович; Харитонюк Лидия Даниловна; Рудич Галина Ефимовна; классный руководитель, учитель математики, жена директора школы Смирнова (Садовская) Екатерина Назаровна; Сацюк Ольга Степановна; Харитонюк Вера Серафимовна; Радчук Владимир Иосифович



открыла свои двери, родителям и детям пришлось изрядно потрудиться. И школьные занятия начались вовремя. Школа торжественно приняла более 150 учеников 1–6-х классов. Ее посещали не только дети д. Остромечево, но и деревень Кошилово, М. Сухаревичи, Покры, Коростичи, Владычицы, Демянчицы, Морозовичи, Рудавец, Цюприки, Бояры, Лыщицы, Кустичи, Яново.

Школа была одной из первых, созданных в Брестском районе.

Зачисление во 2–6-е классы шло после собеседования. В классах оказались ученики с разницей в два-три года, но если учесть, что война помешала многим учиться, то выглядело это нормально. Самое главное — с каким желанием дети старались учиться! По рассказам самих выпускников первых выпусков и их учителей, большинство стремилось получить среднее образование в школе и поступить учиться в вузы. Ученикам приходилось писать на газетах, обойной бумаге, собираться у кого-либо дома и читать один учебник вслух. Не хватало парт, пособий, инвентаря. В классах бывало очень холодно и сыро. Несмотря ни на что, школа работала: проходили утренники и вечера, сбор металлолома и макулатуры, собирание камней на полях, посадка деревьев и садов.

Теперь представлю выпускников Остромечевской средней школы 1949 года. Их было 15: Николай Брашко, Ольга Сацюк (д. Рудавец); Ирина Дудик, Алексей Кузавко (д. Остромечево); Анна Курова (д. Кошилово); Владимир Петручик, Вячеслав Рудич, Галина Рудич, Валентин Петручик (д. Морозовичи); Клавдия Василенко (Гомельская обл.); Михаил Семенюк, Алексей Паднюк (д. Покри); Владимир Радчук (д. Кустичи); Вера Харитонюк, Лидия Харитонюк (д. Владычицы).

Классным руководителем в выпускном 10-м классе была молодая учительница математики Екатерина Назаровна Смирнова. Весь класс ее обожал за справедливость, строгость, душевность и красоту — это слова самих выпускников.

Разговаривая с ними, читая их воспоминания, по-доброму завидую, что через всю, порой не простую жизнь они сумели пронести добрые воспоминания и искреннюю благодарность своим учителям.

С неподдельной теплотой все они отзываются о своем директоре Петре Максимовиче Садовском, об Анастасии Петровне Вакулич — учительнице белорусского языка и литературы, о Леониде Никитиче Кузавко — талантливом учителе немецкого языка, который «поставил» минскому инязу не один десяток студентов. А его доброта, человечность, интеллигентность и начитанность была всем ученикам школы примером и образцом для подражания.

Все ученики очень хорошо отзываются обо всем коллективе школы. Как бы ни было трудно, они выдержали все и через всю жизнь пронесли память о родной Остромечевской школе и учителях. Уже одно то, что из 15 выпускников 9 стали учителями, говорит само за себя.

*Иван ПАНАСЮК,*
*выпускник Остромечевской СШ 1954 г.,*
*автор сборника «Остромечево и «остромычивци»*
*http://astramechava.somee.com*

# Песні з рэпертуара народнага ансамбля музыкі і песні




## ГУСАНЬКІ

Гусанькі, ой, гусанькі на стаў,
Гусанькі, ой, гусанькі на стаў.
Добры вечар, дзяўчына, бо шчэ, ой,
Бо я шчэ й не спаў.

Я не спаў, спаць я не буду.
Я не спаў, спаць я не буду.
Дай мне павячэраці, бо я шчэ, ой,
Бо я шчэ й не спаў.

Я ж натапіла, наварыла.
Я ж натапіла, наварыла.
Я ж для цябе, сэрданька, нагато, ой,
Нагатовіла.

Ёсць у мяне рыбка жарана,
Ёсць у мяне рыбка варана.
Я ж для цябе, сэрданька, нагато, ой,
Нагатовіла.



Гусанькі, ой, ды ляцяць дугой,
Гусанькі, ой, ды ляцяць дугой.
Ой, дабранач, дзяўчына, ой, пайду ж я,
Ой, пайду к другой.
Ой, дабраноч, хлапчына, ой, пайду ж я,
Ой, пайду дамой.

## ГЭЙ, МОЙ КОНІК

У тумане меж разор,
Дзе каліна гнецца,
Нестрымана, як віхор,
Конік мой нясецца.
Ты ляці, ляці, звяні
Ля азёр і гаю
І дзяўчыну дагані,
Тую, што чакаю.

*Прыпеў:*
Гэй, мой конік вараны,
Сэрцам бег твой чую.
Бьюць падковы, як званы,
Аб зямлю сырую.

Ты, мой конік, верны конь,
Лёгка, без прынукі
Выкрасай агонь з падкоў
І сагрэй мне рукі.
Для чарнявай, што люблю,
Чые сніцца імя,
Зоркі ў небе запалю
Іскрамі тваімі.

*Прыпеў.*

Ты ляці, ляці ў прастор
Да красы-дзяўчыны.
Пераскоквай цёмны бор,
Рэкі і даліны.
Узлуецца — прамаўчу,
Ей не запярэчу.
Толькі ціха прашапчу:
Дзякуй за сустрэчу.

# ПРЫМАЦКАЯ

У крыніцы ля ракі ходзяць, бродзяць прымакі.
Мы прышлі вам праспяваць, сваё гора расказаць.

Ой, ты гора, мае гора, прымацкая зорачка.
Дзень глядзіцца ў люстэрка мая жонка Зорачка.

Колькі год я прымяраўся, колькі год я выбіраў,
За курносую ганяўся — даўганосую ўзяў.

Як я ўдала ажаніўся, трапіў цёшчы ў прымакі,
Запірае яна ў скрыню ад мяне ўсе кумпякі.

Жыць у прымах — лепш хадзіць па дарозе з торбаю.
Каўбасу пяць год не нюхаў, усе капусту сёрбаю.

Ой, ты, ліра, ой, дуда, бедна галоўка мая,
Трэба думаць, як нам жыць, што нам з цешчамі рабіць.
...Забіць!!! Не, хлопцы, — любіць!!!

# ЦЕРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЦЕРАЗ БАЛОТА

Цераз рэчаньку, цераз балота
Падай ручэньку, маё залота.
Ручкі не падам, бо душу згублю,
Скажы мне праўду, каго я люблю.

Цераз рэчаньку, цераз быструю
Падай ручэньку, падай другую.
Ой, знаю, знаю, каго кахаю,
Толькі не знаю, з кім жыці маю.

Ой, там у садзе, садзе-садочку,
Там расцвітаюць розны цвяточкі.
Ой, я хадзіла шчэ й гаварыла:
Судзі мне, Божа, каго любіла.

Ой, ты, дзяўчына-чараўнічэнька,
Ачаравала тваё лічэнька,
Ачаравала сэрца і душу,
Цяпер да цябе хадзіці мушу.

Каб так дашоў ты да сваёй хаты,
Як я ўмею прычараваці.

А мае чары напагатове.
Белае лічанька, чорныя бровы.

Цераз рэчаньку, цераз балота
Падай ручэньку, маё залота.
Цераз рэчаньку, цераз быструю
Падай ручэньку, падай другую.

## КАЛЯ МЛЫНА

Каля млына, каля млына расцвіла каліна.
Там дзяўчына воду брала, сама чарнабрыва. — 2 р.

Яна брала, яна брала, воду набірала.
Была ў маці адна дочка, ды та гора знала. — 2 р.

Баць добры, бацька добры ды маці ліхая.
Не пускае на вуліцу, кажа — маладая. — 2 р.

Пусці, маці, пагуляці, я не забаўлюся,
Як запяе певень, я домоў вярнуся. — 2 р.

Пее певень, пее другі, шчэ й кура сакоча,
Кліча маці вячэраці, а дачка ня хоча. — 2 р.

Вячэрайце, бацька, маці, вячэрайце самі,
Бо ўжо мне надаела вячэраці з вамі. — 2 р.

Каля млына, каля млына расцвіла каліна.
Там дзяўчына воду брала, сама чарнабрыва. — 3 р.

## У АГАРОДЗЕ БУРКУН

У агародзе буркун, буракі не родзяць,
А кум да кумы што вечара ходзіць. — 2 р.

Ой, куманя мая, прынясу ячменю.
Ой, не ідзі, не нясі, я яго не змелю. — 2 р.

Ой, куманя мая, прынясу я жыта.
Ой, не ідзі, не нясі, каб не была біта. — 2 р.

Ой, куманя мая, прынясу я грэчкі.
Ой, не ідзі, не нясі, не рабі супрэчкі. — 2 р.

Ой, куманя мая, прынясу я сала.
Ой, прыдзі, прынясі, я яго і ждала. — 2 р.

Ой, куманя мая, прынясу смятаны.
Ой, прыдзі, прынясі, мілы мой, каханы. — 2 р.

Ой, куманя мая, прынясу я грошы.
Ой, прыдзі, прынясі, мілы мой, харошы. — 2 р.

Ой, прыдзі, прынясі, не стучы ў акенца,
Бо як мілы мой пачуе, то вазьме паленца. — 2 р.

У агародзе буркун, буракі не родзяць,
А кум да кумы што вечара ходзіць. — 3 р.
А кум да кумы до сіх пор усё ходзіць!

## ДІВЧЫНА-РЫБЧЫНА

Мав я раз дівчыноньку чэпурнэньку,
Любу шчэбэтушэчку румянэньку.

*Прыпей:*
Гэй, гэй, гэй! У-ха-ха!
Дівчына-рыбчына молода!

Посылав я сватів у нэділю,
Думав погуляемо на вэсіллі.

Малы повэрнутыся з рушнікамы,
Алэ повэрнулыся з гарбузамы.

Всьому супэрэчыв бацько рідны,
Бо вона богатая, а я бідны.

Мало не застрэлывся із рушныці,
Порох був замочэны в порушныці.

Думав я втопытыся з тоі злості,
Та вода холодная, ломыць косці.

Вжэ про ту дівчыноньку нэ думаю,
Бо у другім сэлі дэсяць маю.

*Прыпей.*

# Аповед Наталлі Сухаверхай
## з вёскі Дубок Брэсцкага раёна
## пра кадяды, вяселле ды святкаванне Юр'я

*Запісала студэнтка 1 курса спецыяльнасці «Беларуская філалогія (літаратурна-рэдакцыйная дзейнасць)» Качалоўская Юлія Якаўлена ў в. Дубок ад Сухаверхай Наталіі Адамаўны (1947 г. н., сярэдняе, правасл., мясцовая)*

— *Раскажыце, як Каляды святкавалі?*

— Пырыд Руждеством всі люды сублюдалы пост і ўсердно мулылыся. Пырыд ніччу, кулы рудывся Хрыстос, справлялы пэршую Куляду. Йыда булла ныскуромная (кутя перловая з мэдом, мак, бліны на вуді, кампоты). Як сядалы вычэраты, клыкалы муроза: «Муроз, муроз, іды ду нас духаты з намы вычэраты. Мурозь нас зымою, а літом устав в пукое». После вычэры всі шлы ду цэркви на всюночню. На пэршый дэнь света люды ўддыхалы і йылы скуромную йыду.

— *А як калядаваць хадзілі?*

— Пуд вэчур худылы кулядуваты з Кузою, су Звіздою. Куляда длылася ду Бугатого вэчура (14 января). Кулядныкы спывалы разныйы пісні, за шо пулучалы ўд хозяев грошы, пуздравленія з Руждеством, пыругы, цукор, гуріхы.

— *А якія песні спявалі?*

— Кулядныкы всігды начыналы такэю пісню:

Добрый вэчур, пане гуспударэ ду тэбэ.
Біг тэбэ клычэ,
На порадоньку ду сэбэ.
Пане гуспударэ,
Чы дузволытэ спываты,
Чы так ласку даты?

— Потом спывалы такую пісню:

Пу всёму світы стала нувына:
Дева Марія сына рудыла.
В яслі пулужыла,
Сіном прытрусыла
Господнёго сына.
Дева Марія Бога прусыла,
В шчож бы я свого,
Сына сповыла.
Ты, ныбэсный цару,
Прышлы мыні дару,
Всёму дому, гуспудару.
Зышлы анёлы з нэба ду зымлі,
Прынэслы дары
Девы Марії:
Тры свічы вусковых,
Шэй різы шувковых
Ісусувы Хрыстовы.

— *Раскажыце, як святкавалі вяселле?*

— В пэршую очередь запывалы мулудуху. Прыходыв жыніх, ёго батько, маты, хрышчоныйы жыніха, ёго браты і сэстры. Вуны дугуварувалыся, кулы рубыты вісілле, скілько будэ густэй уд мулудухы і жыніха, на якое чысло і дэнь будэ вісілле і вінчаніе. Раньше було вісілле в ныділю і пуныділок. Свадьба начыналася з того, шо за мулудухыю прыйыжджела вся рудня жыніха. А ду

гэтого чесу мулудая вжэ пувынна була буты вдегняна в пудвінечное плате і фату (вдягатыся йый пумагалы йыйы пудружкы). Пудружкы требувалы за мулудую выкуп, якый друзья мулудого давалы грушыма. Мулудая йыхала на вінчаніе ўддельно ўд жыніха на свуйый пувозцы з пудружкамы. А жыніх — на другый пувозцы з друзьямы і всею руднёю.

*— Якія песні спявалі?*

— Тая пуездка супрувуждалася піснію:

Маты дочку выраджела,
Выраджеючы, навучела:
«Будь, дітятко, рузумное,
Госпуду Богу прыемное.
Як ты пуйдыш ду цэркувкы,
То ты там ны пыжыся,
А Госпуду Богу пумулыся.
Прысвятуй Деве пуклуныся.
Прысвятая Дева, Божая Маты,
Дупумужы мыні шлюбу взеты.
Пуд царскым вынком пустуяты.
З лівыйы ручкы пэрстынь зняты,
А на правую налужыты».

— После вінчанія всі госты йыхалы ду мулудухы і пу дурозы спывалы піснію:

Наша Марія звінчана.
Буйныйы вітры ны рузвіють,
Пустыйы языкы ны рузвыдуть.
Буйныйы вітры на ліс пуйдуть,
А пустыйы языкы пуд міст пуйдуть.

— Вдома ў мулудэйы густэй ждалы накрытыйы стулы. Маты з батьком выходылы з хлібом-сіллю і выном вытаты мулудых, пуздравлелы з вінчаніём і прыглашалы всіх густэй за стулы.

*— А колькі дзён працягвалася вяселле?*

— Вся свадьба гуляла цілый дэнь ду вэчура. Госты мулудэйы пізно вэчуром пырыпывалы мулудую (грушыма, пустэлямы, пусудыю...). Пырыпой супрувуждався піснію:

Хоть і з-за мора пырыплывайтэ,
Так нашу Марію пырыпывайтэ.
Пырыпывайтэ купою жытом,
Купою жытом, шчаслывым бытом.
Шчаслывым бытом,
Шчасцем, здоровьем,
Долею добрыю,
Шоб булы бугатыйы.

*— А калі выносілі каравай?*

— Ву время пырыпою дылылы курувай, куторый пыкла хрышчоная. Устаткы курувая і гурілку выносылы всім тым, хто прышов пудывытыся на вісілле. После курувая свахы (жыніхова рудня) забыралы з хаты мулудэйы вышывку, картіны, убразы і вызлы ду свыкрухы. Разом су свахамы, мулудэйу і мулудым всі госты йыхалы ду хаты мулудого.

*— А што было на другі дзень вяселля?*

— На другый дэнь свадьба була ў мулудого. Гулялы таксамо ду вэчура, а в кунці вісілля знов дылылы курувай і пырыпывалы мулудого. После пырыпоя мулудая давала пударкы самый блызкій рудні жыніха. Той, хто пулучав пударок, обязательно декував і танцював, рузмахуючы пударком над гулувою. После пударкув бýв шэ йыдён засяд, а наврэшты свыкруха су свэкром пудыходылы ду мулудых, благуслувылы. Потом свыкруха знымала з мулудэйы вэлюн і завывала хустку. В тый хустцы мулудая танцювала зу всімы свуйымы пудружкамы, пырыдавая йым свуй вэлюн.

*— А як Юр'е гулялі?*

— Пырыд гэтым светом в каждый хаты бабы пыклы юрныкы — круглыйы куржі, якыйы змазувалы варонымы яблыкамы або грушкамы. А ранком бралы гэтыйы юрныкы і ішлы в поле ду жыта. Пырыд жытом вклякалы, клалы юрнык на тылько шо прурослое жыто, гувурылы «Отчэ наш», мулылыся, шоб був добрый уружай. Була такая прымета: кулы юрнык хувався в жытовы —

будэ бугатый урожай. Часто мулітвы супрувуджалыся замовамы:

Русты, жытычко, высною, літычком,
Русты, радуй нас, людочок, діточок.
Хай спорный дожджычок з тубою лашчыцця,
І сонцэ ясное і вітрык ласкувый.
Бог бырыжэ ныхай тыбэ уд засухы,
Застырыжэ тыбэ уд всякой напасті.

— Потом вырталыся з поля дудому і выганелы на пашу быдло, запасувалы куров после довгыйы зымы. Каждый пастух трымав в руках свячоную вырбу. Пэрш, чым выгнаты курову з хлыва, чыталы мулітвы, звырталыся ду Бога прозьбамы:

Ратуй, Божэ, мую худобу ўд булезні, зглаза,
Хай ны чэпляйыцця ду йэйы всякая зараза.
Хай «паша» смачныйу йый будэ,
Дурогу в хлів хай нэ забудэ.
І шоб надойы мулука лылыся просто, як рыка.

*Запіс 2015 года*

# Успаміны пра Вялікую Айчынную вайну

***Запісала студэнтка 1 курса спецыяльнасці «Беларуская філалогія» Ермакова Марына Генадзеўна ад Буйніцкай Марыі Сямёнаўны 1926 г.н. у в. Сухарэвічы Брэсцкага раёна (беларуска, мясцовая, праваслаўная)***

*— А Вы в войну тут еще были? Помните, может, еще что-нибудь?*

— Ой, помню.

*— А сколько Вам тогда было, когда война началась?*

— Ну, щытайтэ, як с двацать шостого года.

*— И Вы были как раз тут, в деревне своей?*

— Да, в Сухаревичах. Самолёты. Это ж чытыры часа утра. И вжэ тут это було. И папа, покойный муй, прыйшов и говорыть маме моей: «Маня, вставай, тут война идэ!». Ну, и мы встали. Повыходылы на улицу все люди с домов. Самалёты летять, гудуть, солдаты бегуть полямы. Ну, шо, и одразу в этой дэнь, як война вжэ, и немцы в деревни, и поихалы. Я никогда не думала, шо буду жыть. Одно думала, як тож помирать буду.

*— Так страшно было?*

— Ой, оно чуть, и растрэльвалы. А весной дело начынае развиваца, а мы вжэ з дому в се в поле. А на поли воронкы тыи, шо во время войны были брасали бомбы. И тыи ямкы. Облаву делали на молодёж и забыралы в Германию на работу. Хто ёго знае, куды воны их отправлялы. То вжэ казалы: «Луччэ хай забъють, чым куды воны повызуть». Потому шо воны прамо як зверы булы. Не дай Бог! Шоб воны шлы так жалея людэй, то воны мусыть усёй свит забралы б, а воны так сыбэ агресивно повылы. И люды, якыи ждалы немцов, то всё, охота отпала и в их. А ждали тые, шоб кому урадковать.

*— А полицаи были у Вас тут?*

— Прыижалы полица и облаву делалы. А полицаи были те, которые

немцов ждали. Но они и к ним не харошо относились. Якто были немцы харошы. Были. Папа мой в тюрме сидел, а дядя, отца брат, он был председателем колхоза, то и дядю забрали, а отец был секретаром в сельсавете. И ужэ это ж враги. Забыралы, то расказвав отец, казав так: «Бъють, допрашвають, бъють». А одного, то казав, допрашвали этым: кручок зачыпляли и такы круг, и тягнуть ёго, а там собака стоить. Собака давай кусать, рвать. Казав, страх. Ны дай Бог. То мама моя, покойна, ходыла по деревни значыть, за шо ёго забралы, шо ён не виноватый, он ничего плохого не делав. Люди поподписвались. А там у нас був один такий, тожэ забралы. И люды добрыи булы. А одын був таки, шо напысав, шо самогонку гналы. То мама ходыла, люди подпысалы и пустылы отца дамой немцы.

*— А были у Вас тут власовцы?*

— Были и власовцы, боялись их. Но один, помню, прышов у хату власовец и казав, шо он з Москвы. А нас тогда як раз выгоняли окопы копать.

*— И Вы, молодая девочка, выходили окопы копать?*

— Я ны копала. Той власовец сказав: «Ны выходь. Мы, кажэ, поидым скоро, а ты зализь на печку и сыды, и ны выходь». Сам москвич був. Но шо, камандир их, власовец, здав немцам и воны ны то шо на окопы ишлы, а их забралы власовцы. И забивали людэй эты власовцы.

У нас одын жыв пленый, и казав з Росии дэсь, то цэлую ныделю жыв. Страшно було. Немцы як взнали б, то могли и растрыляты семью. А вин, с плена збежал. То брату сапоги пошыв. Харошый був. Жалко ёго, ёго потым растреляли. Он ушов од нас. Кажэ: «Коб вам плохо ны було». Пойшов у партизаны.

Мой муж быв з Витебской области, то казав, свикров расказвала, бо мужык мой так, як отслужыв тры года, и два месяцы осталось и вжэ дамой пустылы. Война. И вин пойшов на войну. И так вин тры года армии и отслужыв, бо старшына був. То, кажэ, два года, а як старшына, то тры года.

*— А этого пленного, который сбежал с партизанов, его ловили?*

— Сказали, дэ тыи партизаны находяца, и облаву сделали, положыли их. От того стали бить и забылы ёго. Но вин шэ жывый був. Выкопалы ямку и шчэ побылы. Погрузылы в тую ямку и закопалы. Ны дай Бог. Но откапвалы вжэ после войны. Собыралы, да в Чырнавчыцы позавозылы. Той есть брацка могыла.

*— А евреи были у Вас тут?*

— Не, у нас тут евреев не было. Я видела, як поихалы в Брэсць тётка, дядя — оца брат, то мы бачыли, як гнали пленных еврэев. Там старушка така старенька ишла нагнёда, ды впала. А гэты немец подыйшов и ногою, ногою еи. А подбиглы другэи подняли, под рукы её взяли и повылы. То их мусыть еврэев около ста было.

*— А партизаны как себя вели?*

— А партизанов у нас мало было. Это эти шо пошли у партизаны, воны мели перыйти туды дальшэ, под Витибщыну. Там свикров казала, шо в дэнь идуть в хату немцы заходять, а ночу партизаны, а в дэнь немцы. Бож йисты хочуть. То дывалы тихонько и с собою. А так боялись, кажэ, всю трасэ.

*— А как же дети были в то время?*

— Ну так, ховалысь, боялыся всих. Брат пошов этот в Брэсць. Ой, дэ то? В общэм, с тэй работы на фронт ны бралы. Он покынув работу сам. Всю войну пройшов. Ёго дочка, тут во, в интэрнэте найшла дэ ён похоронен.

*Запіс 2015 года*

# Як пачыналась вайна

*Запісала студэнтка БрДУ імя А.С. Пушкіна Гайдук Вольга ў в. Кустава Брэсцкага раёна ад Курупатвы Сямёна Іванавіча (15 лютага 1930 г. н., бел., пісьм. (адукацыя 3 класа), праваслаўны, нарадзіўся ў в. Стаўбцы Бельскага раёна (Польшча))*

— *Добры дзень! Скажыце, калі ласка, можа вы ведаеце што-небудзь пра вайну? Можа што памятаеце і змаглі б мне расказаць?*

— Дід мій пэрэжыў тры войны. Я пэрэжыў тры войны. Мні вжэ восэмдэсят шэстый год пойшоў. Шо вам расказаты? Як война була?

— *Да, раскажыце, як пачалася вайна. Як узналі?*

— Как узналі? В сорок первом году, і 22 іюня. У нас там, где я жыў на родіны, там у нас буў военны городок, деревня Мутна называласа. Там, ну кагда в тріццать девятому німэц напав на Польшчу, і разгромыв Польшчу, і нашу теріторію, о. Тоде мы жывэма, о тута мы жывэма до Стоўбцоў. Стоўбцы — гэта возле Барановіч. То була польска теріторія, то уся була Польшча. І от там коля большовіків (усміхаецца). Отдав гэтой німэц, і прышла совецка власть ужэ. Вжэ в нас була совецка власть, з трыццать девятого года.

Я пры Польшчы кончыў одын клас в польскый школы. То було в трыццать восьмому году. А трыццать девятом вжэ началаса руска школа. І ныма нычого. У сусіды була кніжка руска. Я пойшоў попросыв, він мні дав тую руску кныжку, я научывса буквы там. І вжэ гэтого пойшоў во вторый клас в руску школу. Анна Павловна Пукало фамілія була, учыла нас. І кончыв я гэто, значыть, тых вторый клас. І в сорок первом году я пошоў у трэті клас. І того о, був день выборов, ну. Голосованне по-нашому называецца, день выборов. І повела Анна Павловна Пукало нас на тыі выборы стіхотворэння расказваты. Напысала мні стіхотворэнне на бумагу. А ў мэнэ був брат з дваццать пятого году, на пяць лет старшый за мэнэ. Сэстра з дваццать шыстого года. І кажэ так о: «І ты, засранец, чы ты выучыш тэе стіхотворэнне?!». Кажу: «Выучу!». Я за вэчор выучыв капітально. Ну і того о. Заходымо на тыі выборы, на голосованне. Там генерал Савіцкый буў, іменне генерала Савіцкого було. Гэто пры Польшчы Эдварт Пільсуцкій назывався. Значыть полякы пошлы добровольно воёваты за Польшчу. Одвоёвалі Польшчу. І він ім дав по дваццать штыры гектары землі. Знаетэ, деткі, скілька гэто зэмлі було, і шэсть гектары сенокоса, дав ім за то, што воны одвоёвалы Польшчу. І былі называліся усаднікі, добровольцы польскі. І той генерал, він був рускій, но значыть воеваў за Польшчу. І того, і іменне там такое меў небольшое той Савіцкій, і мы пойшлі на тое голосованне. Зайшлі, і того о я стаў на трыбуны, поклонывся. Расказаты вам стіхотворэнне?

— *Расказвайце!*

— «Перед боем» называецца.

### ПЕРЕД БОЕМ

Я нынче ночью в бой иду,
Товарищ политрук.
Как на лодони, на виду
Вся жизнь и все вокруг.
Я ждал сегодняшнего дня.
Я знал, что он придет.
Я знал, зачем и кто меня

